Бібліятэка
Беларускага літаратурнага аб’яднання
“БЕЛАВЕЖА”

Серыя заснавана ў 1990 г.

**Кніга дзевяноста восьмая**

Выданне прыўрочана да 70-годдзя берасцейскага паэта з -пад Жабінкі Васіля Гадулькі (1946–1993), аўтара пасмяротных паэтычных кніг “Голас” (2004, Менск, выдавецтва “Літаратура і Мастацтва”) і “Клён зялёны на пустым падворку” ў калектыўным зборніку “Незабыўныя галасы” (2008, Менск, выдавецтва “Мастацкая літаратура”).

Цяперашняе выданне спадчыны таленавітага паэта “Панад сцежкай лёсу” пашырае абсягі яго творчага плёну, дадаючы невядомыя і непублікаваныя тэксты, а таксама сканіраваныя пазнакі яго нялёгкага правінцыйнага жыцця..

# АЎТАБІЯГРАФІЯ

Гадулька Васіль Уладзіміравіч нарадзіўся ў 1946 годзе ў в. Федзькавічы Жабінкаўскага раёна ў беднай сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, але на апошнім курсе, расчараваны ў прафесіі настаўніка, кінуў інстытут і працаваў доўгі час на будоўлі, потым – паляводам у мясцовым саўгасе. Вершы на расейскай мове пачаў пісаць яшчэ ў школе. Друкавацца не спрабаваў, лічачы гэтае сваё захапленне паэзіяй, як пазней замежнымі мовамі – нямецкай, англійскай, італьянскай, французскай і польскай – толькі асабістым сваім хобі. Прыкладна з 1985 года пачаў пісаць па-беларуску. Вершы друкаваліся ў раённай газеце “Сельская праўда”, абласной – “Заря”, двойчы ў зборніку “Дзень паэзіі” і ў штотыднёвіку “ЛіМ”. Рыхтаваў зборнік вершаў і баек, але надрукаваць яго не паспеў: зімой 1992 года, у страшэннай галечы і без сродкаў для існавання, незразуметы, расчараваны і пакінуты ўсімі трагічна памёр і пахаваны на могілках в. Федзькавічы Жабінкаўскага раёна.

---

*Як ні дзіўна, гэты аўтабіяграфічны дакумент напісаны рукой самога Васіля Гадулькі на просьбу супрацоўніц раённай бібліятэкі Жабінкі. Памыліўся паэт усяго на паўгады. Насамрэч памёр ён 15 чэрвеня 1993 года. Усё астатняе сумненню не падлягае.* (Рэд.)

# ПРЫГОЖЫ ВЕРШ

Верш прыгожа ўспыхнуў, і на крок
змрок спалохана хіснуўся ўбок.
Свет набыў дзівосныя адценні.
Але толькі на адно імгненне:
верш прыгожа ўспыхнуў і згарэў
феерверкам асляпляльных промняў
і нікому сэрца не сагрэў,
і ніхто нічога не запомніў.

## РОДНАЕ ДРЭВА

Вунь лісцік на дрэве – ахоплены тлом,
гарыць-дагарае апошнім святлом
і хутка на дол разам з іншымі ляжа.
Пануры вятрыска яму так і кажа.
І чуе, як ліст яму шэпча ў адказ:
«Дарма ты вярэдзіш душу мне ўвесь час
хаўтурным сваім, сумным восеньскім спевам:
душой назаўжды знітаваны я з дрэвам.
Бо разам з братамі яго гадаваў:
лавіў промні сонца – яму аддаваў,
сцярог яго гонар ад хцівага вока,
і роднае дрэва ўзнялося высока,
і роўных яму сярод роўных няма.
Яму я жыцця свайго скарб нездарма
дарэшты аддаў – покуль сам быў зялёны:
хай заўтра я згасну, як згаслі мільёны,
хай кропелькай сонца згублюся ў траве –
мне ў памяці жыць, покуль дрэва жыве».

* * *

Люба мне, калі ў прыціхлым садзе
ў кронах дрэў не згас яшчэ агонь.
Ліст пажоўклы прыляціць і сядзе
матыльком на золкую далонь.

Ветрык з ім свае спыняе гульні...
Ці не для таго, каб нагадаць:
усяго жывога лёс агульны –
пакрысе мярцвець і ападаць?

Непаўторны для зямной істоты,
час цвіцення – лічаныя дні,
і пад гоман маладой лістоты
леташняй не ўспомняць карані.

І хоць кажуць, што цвітуць увесну
нават карчаваных дрэў камлі, –
я ў сваіх нашчадках не ўваскрэсну:
кожны з нас – апошні на Зямлі.

І хоць вецер гне сухое вецце,
і хоць іней срэбрам лёг на скронь, –
нельга мне, шкада змахнуць, як смецце,
ліст, які сагрэў маю далонь.

# УВОСЕНЬ

Вецер сцежку згубіў –
прыпыніўся на ўзлеску і вобмацкам
разграбае лістоту,
шукаючы нешта ў траве.
А высока над лесам
крыштальна-празрыстае воблака
велізарнаю белаю крыгай
з усходу плыве.

Не пакінуўшы следу,
дакладней нябачнага скальпеля
сінь нябёсаў шкляных
па-над шэрай смугою балот
клін рассек жураўліны,
і з воблака раптам закапала –
усяго толькі некалькі кропляў,
халодных, як лёд.

Крывяню сабе вусны
калінавай ягадай спелаю.
П'ю ляснога паветра
духмяны смалісты настой.
І ўплятае мне восень
яшчэ адну нітачку белую –
урачыстага смутку –
у мой жураўліны настрой.

* * *

Па-над хатамі, па-над гумнамі –
полаг неба, сатканы з хмар.
З прадчуваннямі ў сэрцы сумнымі
на знямелы глядзіш абшар.

Зноў куды ні кінь – і на выгане,
і ў палях – сівы снег ляжыць.
Пачакай: яшчэ сонца выгляне.
Сонца выгляне – будзем жыць.

Сэрцу дай свайму супакоіцца,
акрыяць ад шэрай нуды.
Хай табе ў страшных снах не мроіцца
цёмнай ноччу прывід бяды.

Неаднойчы ўжо хмара засціла
чорным ценем наш доўгі шлях.
Хай нам сто разоў не пашчасціла,
хай чарнобыльскі ў сэрцах жах,

хай разлічана, што ў нядолі нам
жыць на гэтай зямлі сто год
у вяках нікім неадолены
немагчыма скарыць народ.

* * *

Бачу: прыйшла і стаіць каля ганка
ноч навальнічная з хмарай над дахам.
Неспадзявана раз-пораз маланка
пырскае ў вочы радасным жахам.

Цьмяна паблісквае жытняе поле,
белае ў змроку пранізліва-чорным.
Хмара трымае буру ў прыполе.
Гром б’е ў званы пад купалам зорным.

Гнеў перуновы сэрца не ўспудзіць,
поўнага светлых надзей і пяшчоты.
Вусны і твар апякае і студзіць
свежага ветру пялёсткавы дотык.

Квецяцца ў сэрцы маім прадчуванні:
па-над шляхамі захмараных лёсаў
ранак настане ў сонечным ззянні
адшліфаваных да бляску нябёсаў.

Ноч навальнічная! Сэрцам бяссонным
бачу я светлы востраў крынічны...
І не зайздрошчу тым, каму сёння
соладка спіцца пад гром навальнічны.

# НАЧНЫ ТРЫПЦІХ

I

Вецер веснічкі – начны прышэлец –
голасам спяваць прымусіў хрыплым.
Месяц угары – нібы тапелец,
што з глыбокай чорнай прорвы выплыў.

Выплыў, нерухома рот ашчэрыў,
і сабакі на яго не брэшуць.
Ноч – пара здзяйснення злых намераў
тых, каго нішто ўжо не суцешыць...

А самота ў доме застаецца –
сну вымольваць у няўмольнай ночы,
слухаць, як надрыўна сэрца б’ецца:
тут, у цемры, кожны гук – прарочы.

II

Цішыня – акіян дробных кропелек-гукаў,
што ўзнікаюць і гаснуць. І так – давідна.
Вось ізноў нехта ціхенька ў шыбу пастукаў.
Можа, вецер, а мо... Шкло гудзе, як струна.

То мне мроіцца: раптам праз фортку ў акенцы
залятае нябачная птушка ўначы.
Я з пасцелі ўстаю. «Прэч!» – ганю яе ў сенцы,
а яна не зважае – хоць крычма крычы...

І калоціцца сэрца ад раптоўнага жаху,
мрой бясконцых рвучы чорна-белую ніць.
Праз акно бачна: месяц-лунацік на даху
над абрывам сцяны, як над прорвай стаіць.

III

Нечакана
праз фіранкі
асляпляльны бляск маланкі
ўспыхнуў і раптоўна згас.
І праз некалькі імгненняў
зноў сатканай з чорных ценяў
коўдрай змрок ахутаў нас.

Зноў на сэрца цемра ўпала.
Ноч яшчэ цямнейшай стала.
Як яе перачакаць?
Цемра – зверху, цемра – збоку.
Крыўдна: зроку зноў да змроку
давядзецца прывыкаць.

Але ж дзіўны бляск прарочы
нездарма сляпіў нам вочы:
з ім праз ноч ісці лягчэй.
Нездарма ў чаканні ранку
моўчкі кожны з нас маланку
прыхаваў на дне вачэй.

* * *

Ноч пакінула цёмны закутак.
Ціха выпаўзлі прыцемкі з нор.
Надышоў шэры час шэрых сутак –
ані месяца ў небе, ні зор.

Сэрца ў роспачы млее: чаму так
цьмяна свеціцца вокнаў узор
і чаму на заснежаны двор
шэрым інеем лёг шэры смутак?

Неба – возера шэрай нуды –
нагрувасціла снежных аблокаў.
Толькі зробіш ты некалькі крокаў –
замятае завея сляды.
І здаецца, што ўжо назаўжды
твае вочы далёка-далёка.

# ВЯЛІКДЗЕНЬ

Чаромхі куст расцвіў на ўзлеску.
У парку распусціўся бэз.
Прынёс вялікдзень людзям вестку:
Хрыстос-пакутнік уваскрэс.

Як мар вясновы ў сэрцах росквіт,
як лепшай долі пасланцы,
куды ні глянь – пралескі ўроскід,
абапал сцежкі – дзьмухаўцы.

На радасць усяму ў прыродзе
па свеце крочыць белы май,
нагадвае: «Жывіце ў згодзе –
і там, дзе звіў гняздо адчай,

дзе блёкат хцівасці і злосці
труціў пачуццяў першацвет,
узыдуць кветкі прыгажосці,
якая выратуе свет...»

* * *

Чакай: калі ў дажджлівы сумны дзень
нарэшце выгляне пад вечар праз аблокі
і раптам адлюструецца ў вадзе
блакітных лужын твар зары пунсавашчокі;
калі здалёк на ўсходзе бачныя ледзь-ледзь
пачнуць патроху хмаркі ружавець,
і неба, у якога шэры твар быў,
зайграе ўсплёскам свежых колераў і фарбаў,
і ў кроплях заблішчыць расплаўленая медзь, –
тады ты выйдзеш на дажджом абмыты ганак,
і ў момант ад маршчын разгладзіцца чало;
скупы на радасць быў захмараны твой ранак,
затое вечар – шчодры на святло.
На схіле дня яно вяртаецца, як рэха
світання, да пары схаванага ў імгле,
і ёсць для сэрца ў тым запозненым святле
і радасць, і салодкі сум, і боль, і ўцеха.

# НАВАЛЬНІЦА

Паблякла сонца, і на лес пануры
лёг раптам цень злавеснага крыла.
І разам з подыхам неспадзяванай буры
затрэсла кроны дрэў і ў нетрах загула,
завыла, загукала навальніца.
Пярун, бы звар'яцелы – свет спалю! –
пачаў хрысціць маланкамі зямлю,
і неба ўдарыла ў званы ў завоблачных званіцах.

Зайгралі на цымбалах чорных хваль
жыты азімыя і яравы палетак.
А на пагорку млявыя, амаль
змярцвелыя, сцяблінкі траў і кветак,
як маці, да грудзей прыціснула зямля.
Пранёсся ўспуджаны віхор, як звер шалёны,
закапалі на дол раскідзістыя клёны
буйной лістотай з пашарпанага галля.

Віхор пранёсся, і ў імгненне вока
з нябёсаў на счарнелыя палі,
на лес, які стагнаў і глуха войкаў,
з такою лютай злосцю дождж паліў,
як быццам нехта зверху з сілай выбіў
дно ў бочцы назапашанай вады.
Тугі струмень умомант змыў сляды
і на пяску фантанам пырскі ўздыбіў.

Сцяна вады – стыхія, у якой
маланкі слепнуць, глухне грукат грому.
Раўчук на час адчуў сябе ракой –

знёс кладку, па якой ішоў я з дому...
Але ўжо дождж крыху свой сцішыў шал.
Яшчэ ў смузе лугоў і ніў абшары,
а ў небе ўжо рассунуліся хмары,
і сонца зверху глянула ў прагал.

* * *

Стаіць, нібыта заварожаны,
лес у вячыстым хараcтве.
На ўскрайку – стомлены, здарожаны –
спіць ветрык у сухой траве.

Плывуць хмурынкі ў золкай просіні.
Туман – як прывід над ракой.
Паўсюль прыкметы блізкай восені,
і ў сэрцы восеньскі спакой.

Няма ні смутку ў ім, ні горычы.
І ліст, пажоўклы без пары,
яшчэ свіціцца, радасць дорачы, –
у німбе гаснучай зары.

Шчаслівы той, каму прызначана –
перш чым надыдзе судны час –
іскрынкай радасці не страчанай
успыхнуць – у апошні раз.

* * *

Зноў з-за хмаркі выплыў месяц,
а ў вачах і сэрцы – змрок.
Бляск фальшывы не ўваскрэсіць
і не вылечыць твой зрок.

Тым, хто ў ноч – у ёй, бясконцай,
усляпую ідучы –
цэлы век не бачыў сонца,
цяжка зрок свой зберагчы.

Так яно, бадай, і лепей:
невідушчаму лягчэй.
У начы, бы ў цёмным склепе,
лепш зусім не мець вачэй...

Адхінаю ўбок фіранку:
цемра – чорны сплаў свінца.
Толькі б дачакацца ранку –
не аслепнуць да канца.

# САМАГУБЦЫ

У праціборстве сіл дабра і зла
тупы інстынкт цярплівасці жывёльнай
не спрацаваў – душа перамагла,
і суджана ёй стаць, як птушцы, вольнай.

Адрынуты бязлітасны дыктат.
Ляціць і не баіцца Боскай кары:
хай жорсткі лёс, яе спрадвечны кат,
шкадуе аб упушчанай ахвяры!..

Уцеклых не ў выратавальны сон,
а ў Вечнасць, у якой свае законы,
іх возьме Ноч пад зорны парасон
і зберажэ ад глуму іх імёны.

# 30 ВЕРАСНЯ 1990 ГОДА

Сорак дзён і начэй
не заплюшчыў вачэй,
а ў бяссонных тваіх –
і не згледзеў,
як патухла святло...
Крыўдна бачыць было
абыякавасць родных, суседзяў.

Ты хварэла даўно,
і ў той дзень я адно
толькі чуў:
«Дзякуй Богу! Нарэшце!»
Насклікалі кабет.
Гатавалі абед.
А труну
не было каму несці.

Пахавалі аднак.
І хоць сын твой – жабрак,
вер: ён матчыных слоў
не забудзе.
І згадае не раз,
што самога ў свой час
пахаваць нават
некаму будзе.

Бог не ўсім пры жыцці
даў праз пекла прайсці,
як табе,

і памерці – прыстойна.
Цяжкі несла ты крыж
і пад крыжам ляжыш –
спіш цяпер вечным сном...
Спі спакойна.

# НА МАГІЛЕ МАЦІ

Ты чуеш, маці? Сын з табой гаворыць.
На хвалях дзён я наўздагад плыву.
Абрыдла ў цемры жыць, аднак жыву:
свет мне яшчэ не толькі церні дорыць.

Калі душу ў блуканнях стома зморыць,
прыйду, каб ніцма ўпасці на траву,
або схілю ў жалобе галаву
і рэха скаргу – сэрца ўздых – паўторыць.

О, калі б ты магла ў хвіліну гэту
паслаць мне суцяшэнне з таго свету –
адбыўся б Усявышняй воляй цуд:

лёс адмяніў бы жорсткі свой прысуд,
і я ў жыцці зноў змог бы ўбачыць мэту
і патаемны сэнс зямных пакут.

# НА МОГІЛКАХ

Улады тут не мае нават час,
але слядоў няроўнасці не сцерці.
Паўсюль яна суправаджае нас:
і пры жыцці, і нават пасля смерці.

На ўскрайку помнік – іншым не раўня:
граніт, жалеза, мармур шліфаваны
ахвяравала шчодрая радня –
хай кожны бачыць, хто тут пахаваны,
чый тут увекавечаны прэстыж
і прыналежнасць да якой эліты.
А побач з помнікам – драўляны крыж,
і хоць ён белым ручніком спавіты,
грудок пад ім увесь зарос травой,
дзядоўнік па баках пусціў карэнне.
Стаю над ім з паніклай галавой.
Стрымаць імкнуся гнеў і абурэнне:
навошта, хто з наведвальнікаў тут
накідаў смецця, шкла, старых бляшанак?
Чыя душа ў канцы зямных пакут
апошні тут знайшла сабе прыстанак –
дзе толькі трапяткі, як матылёк,
ручнік, з якім сваволіць вольны вецер,
напамінае – бачны ўсім здалёк –
што ў кожнага з нас ёсць радня на свеце?

* * *

Пакінуты дом на вачах старэе.
Ні палена ў печы, і сонца не грэе
сівых ад марозу – нібы ў золкім срэбры –
маршчыністых сцен заінелыя рэбры –
бярвенняў, знадворку – парэпаных, шэрых,
знутры – у падцёках на брудных шпалерах.

Няма гаспадыні ў пакінутай хаце.
Жыла адзінока ў ёй хворая маці.
Калі ж і зусім не магла ўстаць на ногі –
адкуль было хворай чакаць дапамогі?
Усё спадзявалася: сын вось прыедзе...
Праз тыдзень яе пахавалі суседзі.

Без догляду хаце пад гонтам счарнелым
самотна стаяць і глядзець на свет белы
праз вейкі пажоўклых аконных фіранак.
Пахіліцца комін, праваліцца ганак.
Адны толькі ластаўкі, як і спакон, тут
жыць будуць – у гнёздах пад дахам з гонту.

* * *

Нас усё часцей падводзіць памяць –
першы знак нямогласці старэчай.
Вось прачнуўся – і не мог уцяміць,
ранак за акном ці мо ўжо вечар.

Ці то ранні час, ці надта позні –
каб устаць і зноў – упарта крочыць...
Час такі, што ўсё цяжэй адрозніць
прыцемкі ад апраметнай ночы.

Дзень пад ноч грымуецца старанна.
Ноч ярчэй зарой фарбуе шчокі.
Скрозь – падман. Усё загрымавана:
і зямля, і неба, і аблокі...

* * *

Яшчэ дзеці любяць казкі.
Хоць і рэдка, але ёсць
шчырасць шчырая без маскі,
і без грыму – прыгажосць.

І гучыць Шапэн вялікі
праз дынамікаў выццё.
Ёсць сябры не па разліку
і каханне – на жыццё.

І здараецца на зайздрасць
бачыць нават не ў кіно
незасмучаную радасць,
неатрутнае віно.

* * *

Не пазірай на захад сонца з жалем.
Вер: наша радасць нас не абміне.
Надыдзе ноч – сваё святло запалім:
лучынку, свечку, лямпачку ў акне.

І радасць будзе ад таго не меншай,
што, можа, хіба толькі праз гады
яна да нас загляне на агеньчык –
з тым, каб ужо застацца назаўжды.

# У МЁРТВЫМ ЛЕСЕ. СОН

Яшчэ не вечар. А навокал
пануры, могілкавы змрок.
І сонца дыск чырвоным вокам
глядзіць сувора, як папрок.

Даўно ўжо ў гэтым лесе мёртвым
змоўк назаўжды птушыны спеў.
Бязлістыя, нібыта мётлы,
стаяць шкілеты мёртвых дрэў.

Над імі ў цьмяным паднябессі
ўзыходзіць месяц нежывы.
Пачуць бы ў гэтым мёртвым лесе
хоць плач ваўка, хоць крык савы!..

* * *

Тут, у краі –
Наскрозь апетым
Не адным ужо майстрам слова –
Разумею: каб стаць паэтам,
*Быць* паэтам
Недастаткова.

А ўсё роўна:
Пад рыфмаў пошчак
Тых, хто мае і чын, і талент, –
Я чамусьці вось не зайздрошчу
Тым паэтам,
Якія – *сталі*!

Гадулька Васіль Уладзіміравіч нарадзіўся ў 1946 годзе ў в. Федзьковічы Жабінкаўскага раёна ў беднай сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Мінскі Дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, але на апошнім курсе, расчараваны ў прафесіі настаўніка, кінуў інстытут і працаваў доўгі час на будоўлі, потым – палявода[м] і лясцовым саўгасе. Вершы на расійскай мове пачаў пісаць яшчэ ў школе, друкавацца не спрабаваў, лічачы гэтае сваё захапленне паэзіяй, як і пазней замежнымі мовамі – нямецкай, англійскай, італьянскай, французскай і польскай – толькі асабістым сваім хобі. Прыблізна з 1985 года пачаў пісаць па-беларуску. Вершы друкаваліся ў раённай газеце „Сельская праўда" і ў абласной „Заря", двойчы ў зборніку „Дзень паэзіі" і ў штотыднёвіку „ЛіМ". Рыхтаваў зборнік вершаў і баек, але надрукаваць яго не паспеў. Зімой 1992 года ў страшэннай галечы і без сродкаў для існавання, незразумелы, расчараваны і пакінуты ўсімі трагічна памёр і пахаваны на могілках у в. Федзьковічы Жабінкаўскага раёна.

Біяграфія Васіля Гадулькі напісаная ім самім.



У рэдакцыі Жабінкаўскай райгазеты (першы справа –
В. Гадулька, другі – Р. Бензярук, чацвёрты – В. Сахарчук)



Пахаванне В. Гадулькі, в. Федзькавічы. Чэрвень 1993 г.
(першы справа – В. Сахарчук).

* * *

Як гаспадар, сяброў сустрэнь,
паўней віно лі ў шклянкі.
Перафарбуем шэры дзень
у сонечны і яркі.

Пакуль з-за хмараў не відно,
адкуль узыдзе сонца,
мы ўсе патроху п’ём віно –
ад чукчы да эстонца.

Нас не зламаў ні лёс, ні час.
Нам проста не да твару –
замест віна пракіслы квас
і лямант пад гітару.

Не з тых мы, хто ў Вялікі пост
разжыўся дэфіцытам.
І не за тых мой сёння тост,
хто тросся над карытам;
хто смела піў
і смела краў –
прайдохаў розных мафій.
Нам не да іхніх чорных спраў
і цёмных біяграфій.

За праўду,
за сяброў – налі!
Пад звон світальных шклянак
хай назаўжды на ўсёй зямлі
надыдзе светлы ранак.

Чырвоным вермутам зара
пральецца на фіранкі...
Што ж, па апошняй, і – пара...
Няхай прасохнуць шклянкі.

*1989 г.*

* * *

Наверсе «за» – і ён, вядома, не «супроць»,
але калі пачуе: «дэмакратыя», –
абавязкова неўпрыкмет пакратае
да часу прыхаваную аброць.

*1988 г.*

# АДЛІГА

«Кампанія, – кажуць. – Адліга на тыдзень».
А мне дык здаецца: не ўступіць яна
начным маразам – аж пакуль не надыйдзе
сапраўдная ў нашых шыротах вясна.

Зіме не да жартаў: ёй цяжка паверыць,
што час яе ўлады ў нябыт адышоў.
Адна супраць сонца – дарма яно шчэрыць
з-пад шыферных дахаў клыкі ледзяшоў.

І ў роспачы лепіць сумёты, як доты –
часовае ў цемры падполля жытло:
адзін толькі сонца нязгаснага дотык,
і досыць, каб цемра распалася ў тло.

Адно толькі праўды сапраўднае слова,
і досыць, каб зрушыць падмурак маны.
«Кампанія», – кажуць. А мне дастаткова,
каб сэрцам адчуць у ёй поступ вясны.

*1989 г.*

# КРЫТЫЧНЫ ЎЗРОСТ

(актавы)

I

Крытычны ўзрост – пражытых дзён суддзя –
не мог для нас прыдумаць іншай кары,
як даць нам зразумець, што сэнс жыцця –
не ў намаганнях здзейсніць тыя мары,
дзеля якіх з нас кожны, як дзіця,
праз лес расчараванняў, праз ахвяры
ўсляпую ўпарта свой пракладваў шлях,
якому ў безвыходнасці працяг.

II

Шлях  да здзяйснення мары – шлях бясконцы.
Мінулае на кожнай, наўздагад
разгорнутай, гісторыі старонцы
прыводзіць прыклады злачынстваў, здрад,
якіх і ты – гвалтоўна ў дзёрзкай гонцы
ламаючы заведзены расклад –
ахвярай стаў, бо спатыкаўся ў спешцы
і зноў працягваў гэты бег на месцы.

III

Знясілены, цяпер – калі б ты мог
яшчэ раз паўтарыць сябе самога –
адмовіўся б ад пройдзеных дарог
і марных спроб прыспешыць волю Бога;
як зрэнку вока ты б цяпер бярог
недаўгавечны скарб жыцця зямнога
і з часам, дзеля сціплай мэты – жыць,
імгненнем навучыўся б даражыць.

IV

На свеце ж не існуе – і не трэба –
нічога больш надзённага, апроч
таго, каб здабываць кавалак хлеба,
каб сонечным быў дзень і зорнай ноч,
каб на зямлі свайго мець кроплю неба –
святла ў жывых крынічках родных воч,
і каб, нягледзячы на ўсе напасці,
шчаслівым быць, не марачы аб шчасці.

V

Няпросты стан душы – крытычны ўзрост:
тупік, з якога ты павінен выйсці,
але да мэты прывіднай наўпрост
цяпер ты ўжо не зможаш, як калісьці,
узяць і ў думках перакінуць мост,
бо ўжо адчуў у дзён пажоўклым лісці
шчымлівы халадок, а ў сэрцы – сум
і горыч тых, няздзейсненых, задум...

# ВЭРТУМН І ПАМОНА

Бог пораў года, ветру і дажджоў,
Вэртумн няўрокам у багіню дрэў і кветак,
Памону, моцна закахаўся гэтак,
што выйсця лепшага ў адчаі не знайшоў,
як з мэтай прыгажуні спадабацца
любымі сродкамі, любой цаной
прыхільнасці абранай дамагацца,
штораз мяняючы на іншы выгляд свой.
Любое меў ён дар прыняць аблічча:
то грозны воін ён, то малады марак.
І ўсё-такі не мог злавіць яе ніяк –
Памона на вачах знікала таямніча,
хавалася ў густой лістоце дрэў,
прыняць яго ў чужым абліччы не жадала.
І гэтак кожны раз яму не шанцавала,
пакуль памылкі ён сваёй не зразумеў...
Калі ж ён вырашыў больш не хітрыць –
самім сабою стаць перад каханай,
аблічча ёй сваё сапраўднае адкрыць –
быў ёю з радасцю прыняты нечаканай.
Пабраліся яны і разам зажылі
з тае пары ў сапраўднай шчырай згодзе
і ў клопатах аб тым, каб кожны год палі
прыносілі ўраджай і ўсё цвіло ў прыродзе...

О, мудрасць першабытнай даўніны!
Наіўная, а сэнс глыбокі мае:

сапраўднае каханне не прымае
ні хітрасці ніякай, ні маны.

Чаму ж мне ўсё-такі ад гэтай казкі сумна?
Ці  не таму, што ў нетрах сэрца я
зайздрошчу ўдачы закаханага Вэртумна?
Хай зайздрасць і не чорная мая,
аднак употай крыўдна мне да болю,
што, покуль я не стаў самім сабой,
пакуль чужую мне выконваў ролю –
да часу быў аблашчаны табой,
але адрынуты, як белая варона,
калі ў каханні больш ілгаць табе не мог.
Прычым – не з-за таго, што я не бог,
але таму, што ты таксама – не Памона.

# ГАМЕР І ГЕЛЕНА

Гамер ёй сонечнае даў імя,
багіняй даў ёй моц над сэрцамі ўладарыць –
каб закаханы ні аб кім больш, акрамя
яе, ні думаць не жадаў, ні марыць.
Што ў прыгажуні валасы, як лён,
а вочы колеру вады ў блакітным моры –
хоць быў сляпы, а ясна бачыў ён
і ўвекавечыў у магутным творы
красу, якая ў сэрцах таямніча
хвалюе кроў, туманіць розум, кліча
спазнаць і шчасця ўзлёт, і першабытны грэх,
і, увасобленая ў позірк любы,
зычліва дорыць нам падман зямных уцех,
і ў цемры асвятляе шлях да згубы.

## ЧАРОМХА

Чаму ў цвіцення час кароткі
заўжды мяне хвалюе штосьці?
І для мяне твой пах – салодкі,
як успамін аб маладосці.
Хоць і адчуў я ў ім гарчынку,
калі – зусім яшчэ падлетак –
спаткаў знаёмую дзяўчынку
з букетам першых сціплых кветак.

Ішла яна ў напрамку вёскі,
а ты расла каля дарогі,
і вецер белыя пялёсткі
страсаў і кідаў ёй пад ногі.
Цвілі льняным блакітам вочы.
Цвіла ў равах, жаўцела лотаць.
Крануў мяне пагляд дзявочы
а – неўпрыкмет – і ейны локаць.
Я з ёй нясмела прывітаўся,
і нейкі час ішлі мы поруч.
З тае пары ў душы застаўся
твой непаўторны пах і горыч...
Дарыў мне потым свет распусны
глыток атруты ў кожнай кветцы –
глыток, якога прагнуць вусны,
а сэрца, быццам птушка ў клетцы,
жыве ўспамінамі, пяшчотай
нязбытных сціплых мар кахання
і ў думках узнаўляе ўпотай
хвіліны першага спаткання.

Таму ў цвіцення час кароткі
заўжды мяне хвалюе штосьці,
і для мяне твой пах – салодкі,
як успамін аб маладосці.

* * *

Ранкам клён зялёны на маім падворку
дзіўную з лагодным ветрам меў гаворку:
«Дружа мой крылаты! Ветру хутканогі!
Бачыш: там на ўскрайку лесу, бліз дарогі,
расцвіла чаромха ў вэлюме вясельным?
Прыляціш – напоіць гаркавата-хмельным
водарам пялёсткаў, белых – як сняжынкі,
што ўсыпаюць пухам сцежкі і сцяжынкі...
Ты з ёй прывітайся, ты з ёй пазнаёмся.
Скаргу майго сэрца раскажы чаромсе.
Соладка ў палоне мар і летуценняў
дзён чакаць пагодных, а ў пару цвіцення
я ўдвая самотны. Крыўдна мне і горка
пазіраць удалеч са свайго пагорка
на яе ў святочным, сонечным убранні,
аб нязбытным з ёю марачы спатканні.
Бо хоць і даўно я да яе імкнуся,
ды такі ўжо лёс мой: з месца не скрануся...
Папрасі, скажы ёй, сціплай і нясмелай:
хай мне хоць хусцінкай памахае белай».

* * *

Летуценні, летуценняў цені…
Змора, змрок і мара марных мар…
А праз іх, як сонейка з-за хмар,
зоркай радасці ў халодны дзень асенні
свеціцца твой незабыўны твар.

Працьму ў прыцемках прыкмеціць памяць
розных з’яў, а згубіць – знойдзе зноў.
Снуючы сумненні,  сонмы сноў
чысціні ўспамінаў не заплямяць
і святла тваіх нязгасных слоў.

* * *

Шоўк валасоў тваіх чорны, як смоль.
Вочы – нібыта дзве спелыя вішні.
Зноў я жабрак, ён жа — прынц і кароль.
Зноў ты з ім разам, а я – трэці, лішні.
Лішні, але ад цябе ні на крок
не адыду... Сам сабе ненавісны –
кінуў бы ўсё! Ды глядзяць у мой бок
вочы, нібыта дзве спелыя вішні.

# СОН

Ад пяшчотнага дотыку
першых сонечных промняў
я прачнуўся на досвітку
і адразу ж успомніў –
хоць яшчэ карагодзіла
ў млявых думках з прасоння:
да мяне ты прыходзіла
ў сне, што сніўся мне сёння.

Завітала, нябачная,
ты ў мой дом без прынукі,
і з пяшчотай, удзячны, я
цалаваў твае рукі,
шчокі, вочы смяшлівыя,
вуснаў пругкую мякаць.
І такі быў шчаслівы я,
што хацелася плакаць.

Успамінам сагрэтае
ў дзённых клопатаў прозе
пачуццё ўва мне гэтае
яшчэ доўга не пройдзе.
Будзе соладка марыцца:
што, калі неўзабаве
з намі ўсё гэта здарыцца
ўжо не ў сне, а на яве?..

# УСМІХНІСЯ

Што ў нябачных сэрца сховах
тоіш ты на самым дне,
цяжка выказаць у словах –
лепей усміхніся мне
і пра ўсё, што ў сэрцы тоіш,
здагадацца мне дазволь.
Словам рану не загоіш,
а ўсміхнешся – пройдзе боль,
і ў вачах растануць рэшткі
даўняй крыўды і маны,
пацяплеюць ад усмешкі,
запраменяцца яны
невымоўным, безгалосым,
патаемным пачуццём...
Над маім няпростым лёсам,
над скалечаным жыццём
ты ўзышла зарой світальнай,
апаліла мне душу.
Я ў сабе свой боль нашу
і нічога не прашу,
толькі ўсмешкі даравальнай.

* * *

Грэх сарамлівы і шчасце бязгрэшнае
ў цесным двух сэрцаў зліцці,
радасць уяўная, гора няўцешнае
побач ідуць у жыцці.

Хітры з няхітрага кпіць, а не ведае,
не ўсведамляе таго –
здарыцца – здрада, адчай і трагедыя
не абмінуць і яго.

Прагнуў я з праўдай жыцця пазнаёміцца,
выкрыць ягоны падман,
дык перад Богам чаго мне саромецца
сэрцу нанесеных ран?

Бачыў, як раніцай сонца ўзыходзіла,
як напаўзала імгла.
Верыў, трываў – покуль сэрца знаходзіла
ў цемры хоць кроплю святла.

Кроплю надзеі! Не трэба мне лішняга.
А без яго не магу
нават аб смерці маліць Усявышняга,
перад якім не ілгу.

# САНЕТ
# ПЕРШЫ

Чаўном з-за лесу сонца выплывала,
ахутанае ранішняй імглой.
З нябёсаў коўдру зорных сноў зрывала,
сцірала з сэрцаў цень санлівых мрой.

Дзень скончыўся, і згасла за гарой –
пайшло туды, дзе ўчора начавала.
Ноч напаўзла, як чорная навала,
ды небакрай гарыць яшчэ зарой.

З табой мне сонечна было ўвесь дзень,
а без цябе на сэрца лёг, як цень,
адчай і тчэ ў ім цемры павуціну.

Але застаўся ў ім яшчэ адзін
нязгаслы, яркі пра цябе ўспамін,
і светла ў ім яшчэ – ад успаміну.

# САНЕТ ДРУГІ

Жахлівы сон адразу нас разбудзіць –
усхвалявана сэрца б’е ў званы,
і доўга потым успамінам студзіць
душу той, перажыты, жах начны.

Калі ж ёй радасныя сняцца сны,
прачнуцца кожны раз душа марудзіць –
каб іх вясёлкавы настрой не спудзіць,
каб і на яве сніліся яны.

Каханне – гэта светлы сон душы,
які калісьці мне ў начной цішы
надоўга вобраз твой навеяў мілы.

Я знаю: сон той скончыўся даўно,
і ўжо мне ранак стукае ў акно,
а я прачнуцца ўсё не маю сілы.

* * *

Ты ўцякла ў мае сны, а імя – засталося,
каб адрынуты – сэрцам не згас без пары я.
Сярод іншых пяшчотных імён шматгалосся –
водгук мары нязбытнай у слове: М а р ы я.

Так, ад мары ў ім штосьць – як інакш растлумачыць
дарагое імя, з пэўным зместам і сэнсам?
Мара... марнасць... І нават – мана!.. Гэта значыць:
сумаваць па табе і кахаць – толькі сэрцам...

Ты ўцякла ў мае сны; ані ў думцы, ні ў слове
не ўваскрэснуць ні скаргі, ні крыўды старыя.
Вечна юная, быццам ты з вечнасцю ў змове,
як імя тваё з вечнасцю ў змове – М а р ы я.

* * *

Не сумуй, калі мара не здзейсніцца.
Белы снег зацярушыць сляды...
Маладых нашых вёснаў равесніца,
з намі наша любоў назаўжды.

Не давай свайму сэрцу адчайвацца,
калі нехта пакрыўдзіў яго.
Той сакрэт, што любоў не канчаецца, –
у бясконцасці сэрца твайго...

Так, нічога не трэба на свеце мне
ад кахання таго, акрамя
зор світальных, што ў небе суквеццямі
незабыўнае пішуць імя...

Глянь: трыпутнікам – вешкай пад коламі –
тая мара працягвае жыць,
бо на сэрцы, ў якім б’ецца полымя,
іней смутку нядоўга ляжыць.

Веру: з ёй мяне бура ніякая
не спалохае, з ног не саб’е,
ёй, нияздзейсненай, шчыра я дзякую –
за здзяйсненне самога сябе.

* * *

Пры сустрэчы усміхнешся ты...
І няхай усмешка – толькі кропля –
кропля чалавечай дабраты –
а ўсё роўна ад яе мне цёпла
і не страшна восеньскай слаты.

За дабро
дабром табе аддзячу.
Бо і я таксама кожны раз,
калі дзе цябе з усмешкай бачу,
мімаволі на яе ў адказ
усміхнуся... Нават, калі плачу.

* * *

Уяўляю: калі мне самотна,
калі бераг мой тоне ў імгле,
мне паэтка Галіна Самойла
свой аўтограф і фота прышле...

Каб я нос у маркоце не вешаў,
нагадае яшчэ раз: пішы,
і падорыць мне некалькі вершаў,
каб ізноў пасвятлела ў душы.

За давер шчырым словам аддзячу –
прысвячу ёй свой лепшы санет.
І пачну сабе марыць наўдачу,
як хлапчук, закаханы ў партрэт.

*пачатак 1990-х*
*(пазначана аўтарам: не для друкавання)*

* * *

Калі на сэрцы надвячорак,
мне светла ад тваіх вачэй:
твой позірк свеціць мне ярчэй,
калі на сэрцы надвячорак.
Як ад святла нязгасных зорак
планеце ў цемрадзі начэй –
калі на сэрцы надвячорак,
мне светла ад тваіх вачэй.

* * *

Спаткаў не ў пару. Закахаўся наўдачу.
А раптам памру, і тады больш не ўбачу
цябе я ні ў сне, ні – тым болей – на яве?
І боязна мне, што з табой неўзабаве
зусім без прычыны і так недарэчна
расстацца павінны мы будзем навечна.
І горычна ў сэрцы, і ў думках – зайздросна.
І нельга памерці, і жыць невыносна.

*пачатак 1990-х*

# ДА НЯЎСМЕШЛІВАЙ

У мяне на пісьмовым стале –
твой партрэцік, засмучаны гэткі,
Рысы твару твайго – бы ў імгле.
Сумна мне ад журботнай суседкі.
Калі ўзімку прамень сонца рэдкі
іншы раз прывітанне нам шле,
ажываюць халодныя кветкі,
што мароз нагрувасціў на шкле.
Хай лагоднай усмешкаю лета
хоць на міг зазірне табе у твар,
хай вясёлкамі ўспыхнуць – з-за хмар –
вочы, поўныя сонечных мар...
І на жарт, і на шчырасць санета
можа ты мне ўсміхнешся з партрэта.

* * *

Не выдумляй, што для цябе я не памру –
што ў сэрцы буду жыць тваім бясконца:
жывы ў жыцця бясхмарную пару
пагляд свой цягне ўверх – туды, дзе сонца,
а не туды, дзе бездань цемры, дзе
ляжаць я буду ў цеснай дамавіне.
Але ў вялікім смутку ці ў бядзе,
калі апошні друг цябе пакіне,
калі адчай жыцця нам голаў долу гне
і цісне ўніз нясцерпных крыўд навала –
успомніш ты аднойчы пра мяне,
якога ты сама не ўратавала...

# РАКА

*А.*

Даруй, што не ў маёй твая рука:
паміж табой і мной цячэ рака,
якую мы ніколі не пяройдзем –
у ёй, бяздоннай, броду мы не знойдзем.

Дарэмна спрабавалі я і ты
над ёй навесці штучныя масты.
Рака два сэрцы без мастоў злучыла,
плячо ў плячо нас крочыць навучыла.

Ні ўзрост, ні лёс вандроўны, ні гады
не могуць замуціць у ёй вады.
Цячэ яна, раскручваецца стужкай.
Над ёй любоў лунае вольнай птушкай...

Шырэй становіцца, цячэ шпарчэй, –
і знікне ўрэшце бераг твой з вачэй.
Рака ў бяскрайняе ўвальецца мора.
Раку марская праглыне прастора.

І назаўжды разлучыць далячынь
два берагі адной ракі – дзве долі.
І кане ў вечнасць нашых жыццяў плынь.
І  болей мы не ўбачымся ніколі.

* * *

Вецер вішчыць, як паранены вепр.
Шэрыя постаці клёнаў і верб.
Белае марыва ў белых палях.
Снежаньскай золлю пазначаны шлях.

Белы карункавы цюль на сасне
белы твой вэлюм нагадвае мне.
Ветру здзічэлага жудасны зык –
п’яныя полькі вясельных музык.

Цяжка мне. Камень на сэрцы ляжыць.
Думаў: былое змагу перажыць –
прыйдзе і страчаны верне спакой
радасць ад першай сустрэчы з табой.

Бачу цяпер: спадзяваўся дарма.
Ёсць успамін, а спакою няма.
Шлях мой самотны. Праз тоўшчу імглы
зноў прарастае мой смутак былы.

Цёмна ўваччу і губляецца след.
Збочу з дарогі, пайду ў белы свет.
Лепей хай снег на пустэльнай вярсце
ў сэрцы ўваскрэслы той боль замяце.

# РАЗВІТАННЕ

Ірдзее ў небе чырванню зара.
Гусцее змрок. Туман плыве над пожняй.
Прабіў наш час – развітвацца пара.
Нацешымся ж хвілінаю апошняй!..

«Падман жыцця, – сцвярджалі мудрацы, –
На сон душы аслепленай падобны».
Мы ўвесь час крочым побач, а ў канцы
ўсё роўна ў кожнага свой шлях, асобны.

Прачнёмся, і разыдуцца шляхі.
І горкім будзе момант абуджэння.
Ты мне прабач, даруй мае грахі,
а я табе кажу: «Да пабачэння».

Ідзі. Шукай уцех. За слодыч іх плаці
пакутамі, пакуль не надакучыць.
Сустрэнемся мы ў іншым тым жыцці,
дзе нас з табой ніпто ўжо не разлучыць.

## САНЕТ

Свет адмовіў паэту ў каханні.
Проста так, без усякіх падстаў.
Той пакрыўдзіўся, засумаваў,
захварэў і памёр на світанні.

Але вершы, якія ён склаў,
мар ягоных чароўныя здані,
летуценні свае, спадзяванні
у магілу з сабой не забраў.

Нехта іх у сталіцу паслаў.
Неўзабаве ў прыгожым выданні
яго шчырага сэрца прызнанні
цэлы свет з заміраннем чытаў.
Свет адмовіў паэту ў каханні,
а самога ўсё роўна прызнаў.

* * *

Бывай, маё сэрца. Даруй і бывай.
Мяне ўспамінай альбо не ўспамінай.
Цяпер мне ўсё роўна. Я – той і не той.
Як зрэшты даўно ўжо – і твой і не твой,
Якога прывыкла ты бачыць, ды не,
не той, бо няма цяпер сэрца ўва мне.
Яго я аддаў на пакуты і здзек
Табе і без сэрца застаўся навек.

# УСПАМІНЫ

Успаміны – над самім сабою кпіны –
пра той час, калі быў малады.
Шчасця лічаныя ў іх гадзіны
і гады адчаю і нуды.

Ўсё па-свойму для сябе тлумачым
з пункту гледжання становішча свайго.
Успамінамі жывём, бо жыць няма чым.
Хутка ўжо не будзе і таго...

*пачатак 1990-х*

* * *

У кватэры сваёй, бы ў рэдуце,
адгароджаны ад жыцця,
я пачуў уначы крык «ратуйце».
Жах мне сэрца наскрозь працяў.

Прахапіўся. Падумаў з палёгкай:
«Дзякуй Богу, прымроіўся крык...
Ты, жыццё, мяне ў снах не палохай –
я ж ад явы яшчэ не адвык».

*пачатак 1990-х*

## ТАМ

Не пагражай мне смерцю – не палохай,
о, лёс! Увесь спазнаўшы жах жыцця,
без скарг я кану ў бездань небыцця,
і ў пекла траплю, і ўздыхну з палёгкай:
там душы судзіць Боскі Суд людскія,
там праўда, да якой наш свет – глухі,
там я хоць ведаць буду, за якія
павінен я пакутаваць грахі.

*пачатак 1990-х*

# ЛЁГКАЯ СМЕРЦЬ

Сэрца хворага нетаропка
час адлічвае: адмярае
шлях жыццёвы... і раптам – кропка:
чалавек памірае.

Ён
няўцешна вочы адплюшчыў,
хоча нешта сказаць – не можа.
Касцянее пагляд невідушчы...
Скажуць:
лёгка памёр, прыгожа.

І палічаць чарговым дзівацтвам
нават гэты ўздых сэрца прачулы:
«Ён жа
нешта хацеў сказаць вам!»
Не паспеў...
Не змог...
Не пачулі...

*пачатак 1990-х*

* * *

Выпала мне нарадзіцца ў маі.
І хоць лёс мне шчасця не прынёс,
Але ж і цяпер заўжды да слёз –
Сэрца мне збалелае кранае
Песня, што па вечарах у маі
Салавей на могілках спявае.

Ён ляцець не хоча ў цёмны лес.
Лепшага прытулку не шукае.
Тут цвіце ружовы й белы бэз.
Хай мяне радня тут пахавае...
Я, здаецца б, з мёртвых уваскрэс,
каб пачуць, як салавей спявае.

# ДА КРЫТЫКАЎ

Дзівосных песень адгалоскі
да нашых дзён дайшлі здалёк.
А кветкі згортваюць пялёсткі,
калі іх атуляе змрок.

Не дагаджайце. Патрабуйце,
каб песня песняю была...
А лепей самі паспрабуйце
вырошчваць кветкі – без святла.

# ПАЭМА БЕЗ НАЗВЫ

I

Пахіснуўся мой дух,
і абрыдла жыццё,
у якім нават двух
родных сэрцаў зліццё
не ратуе ад здрад,
ад няўклюднай маны,
ад знаходак і страт,
ад уласнай віны.
І тады я рашыў:
каб ад болю ўцячы,
кіну ўсё, чым я жыў,
выйду з дому ўначы
і пайду ў белы свет.
Выйду ў цёмную ноч
для чужых неўпрыкмет
хітрых позіркаў воч.
Так хутчэй адбаляць
раны сэрца майго,
бо тады мне губляць
больш не будзе чаго
і каго так любіў...
Дзе ён, дом і сям'я?
І ў адчаі зрабіў
так, як вырашыў, я.

II

Ці то снег, ці то град
біў крупінкамі ў твар.
Крочыў я наўздагад –

прэч ад спрэчак і свар,
ад самога сябе,
ад жыццёвай нуды –
з торбай крыўд на гарбе –
і не ведаў, куды.
Мне ўсё роўна было,
у які бок ісці.
Зблытаў з цемрай святло
і не знаў, як знайсці
тую мэту, з якой
выбраў я гэты шлях –
там, дзе мост над ракой
на бетонных слупах.

III

І пад ветру выццё
чуў я часам, бы ў сне:
то адстане жыццё,
то дагоніць мяне.
Я то ўперад, то ўбок.
І стаміўся зусім.
А жыццё – ні на крок.
Сам я ўвесь час аб ім
нёс у сэрцы парыў
і ў дарозе, адзін,
сам з сабой гаварыў.
І гучаў мне ўвушшу
дзіўны голас Яе.
Ён вярэдзіў душу,
блытаў думкі мае.
«Уцякаеш – чаму?
Столькі ў свеце дарог!
Хіба к сэрцу майму
шлях знайсці ты не мог?
Дык вярніся, суцеш.
Хоць калі, праз гады.

Ад мяне не ўцячэш.
Я ў табе назаўжды...»

IV

Гэта ты, гэта ты –
боль мой, крык і адчай.
За сабой я масты
ўсе спаліў, выбачай.
Нават попел і той
вецер здзьмуў і разнёс.
Як не здолеў з табой –
сам свой вырашу лёс...

V

Зданню ў зрэнках вачэй
паўставаў шэры мост.
Да яго я хутчэй
скіраваўся наўпрост.
Але мост быў не той,
як я думаў спярша.
Той вісеў над ракой,
а пад гэтым – шаша.
Па шашы той плыве
караван легкавых.
І гудзе, і раве,
рэжа сэрца і слых...
Не згадаю, калі
на той мост я ўзышоў.
Толькі ўжо на зямлі
сам я труп свой знайшоў.
Быў скрываўлены ён
і нібыта чужы –
гэткі, быццам спакон
не было ў ім душы.
Зніклі ў ім боль і гнеў.
Апусцела турма...

Мёртвы, я зразумеў
што мяне больш няма.

VI

Ды існую ўвесь час
і не ўмею старэць,
як той боль, што ўжо згас,
не прымусіш гарэць.
Стаў відушчым сляпы
лепей слухаць і чуць.
Любых броваў сярпы
ў зман мяне не ўвядуць –
ані ў радасць, ні ў злосць,
бо ўсё бачнае – тлен.
І сама прыгажосць
ста траянскіх Гелен
не прымусіць мяне
ўпасці ў бездань пакут
і скуголіць на дне.
Толькі боскі прысуд
мае права душу
пакарыць, пакараць...
Я ў яго не прашу
мне мой грэх дараваць.
А што ў целе маім –
мёртвым – сэрца няма,
як ніхто, ты ва ўсім
вінавата сама:
разам з целам яно
на вясковых кладах
пахавана даўно
і распалася ў прах.
Доля горкай віны
ёсць у тым і твая, –
што за грэх твой зямны
пакараны быў я.

VII

І хоць бачу цябе
я ў абдымках чужых,
а душу не скрабе,
не ўдарае пад дых
горыч крыўды сляпой:
разумею, каму
ты належыш. Душой –
мне. А целам – яму...
Але ж ён – толькі госць.
Што чужому твая
ўся душы прыгажосць:
ён спакусіць, а я –
целам лёгшы ў зямлю,
чым цябе спакушу?
Толькі тым, што люблю
позірк твой і душу,
бо душа ў ёй мая
адшукала радню.
Ты ўцякла, але я
зноў цябе даганю.
Я прыйду ў твае сны,
калі сэрца не спіць
і ад чараў вясны
ў ім дрыготка шчыміць
памяць нашых былых
незабыўных сустрэч,
тых сустрэч, ад якіх
не ўцячэш ты ўжо прэч.
Я ўвесь час за табой
пазіраю ў цішы
зрокам прывідных мрой
і вачыма душы.

# ЗОРКА РАДАСЦІ
(вянок санетаў)

Г. С.

*“Тебе одной плету венок.”*
С. Ясенін

I

Сэрца ў цемры дарогу знайшло
і лунае ў бясхмарнай сінечы.
А дагэтуль няўцямна жыло
ў падсвядомым чаканні сустрэчы,
ад якой свой узлёт пачало...
Безліч мар увасобіла ў нечы
гожы твар, палахлівыя плечы,
бляск вачэй праз аконнае шкло...
«Хто ты? Чым так душу ўсхвалявала?
І адкуль тая радасць мая?»
Першай кветкай пад спеў ручая,
першым громам вясна мне гукала:
«Як адкуль? Гэта ж мара твая
сярод зорак сваю адшукала».

II

Сярод зорак сваю адшукала –
так я потым санет свой пачаў,
а тады ўсхвалявана маўчаў –
слухаў: ты ў маім сэрцы – світала.

Шкадаваў, што так выпала мала
для знаёмства хвілін і падстаў...
Нават – хто ты, адкуль – не спытаў,
сэрца ж сэрца адразу пазнала.
І хоць варта прадбачыць было:
крыжам лягуць, разыдуцца сцежкі –
зерне радасці ўсё ж прарасло,
і сумненняў развеяла рэшткі
шчырасць позірку, шчодрасць усмешкі.
Дзякуй, дзякуй табе за святло.

III

Дзякуй, дзякуй табе за святло
і ў душы і ў няўтульным Сусвеце...
За ўсё лепшае тое на свеце,
што было і чаго не было.
І хоць сэрца спачатку ў сакрэце
ад цябе свой настрой берагло,
не сляпое – усё ж не магло
не заўважыць, што ёсць нехта трэці –
шчаслівейшы; яму, а не мне
ты ўжо ўсё, што магла, абяцала,
і што сам я па ўласнай віне
плыў кудысьці, бы ў казачным сне,
а надзея той сон вартавала
і ў адчаі душу сагравала.

IV

Што ў адчаі душу саграваа?
Мо ўсяго толькі ўсмешка адна?..
А між тым прад вачыма сцяна
непазбежнасці раптам паўстала.

Ці то з сэрцам знарок жартавала
чараўніца пачуццяў вясна?
Ці не ў час завітала яна?
У прыродзе такое бывала:
калі восень на кожным лісце
ўжо аўтографы ўсім раздавала,
раптам яблыня зноў зацвітала –
вяне ліст, а яна ўсё цвіце,
покуль вецер той цвет не змяце
дзён мінулых лістотай апалай.

V

Дзён мінулых лістотай апалай
не прыкідае час тых падзей,
што запалі мне ў сэрца трывала
разам з крыўдай – атрутай надзей.
Прыкмячаў: з цягам часу радзей
і ўсё менш мне ў жыцці шанцавала,
і баяўся пачуць ад людзей:
«Лёс жыцця яго склаўся няўдала...»
Покуль ваша вяселле гуло,
я з самотай заручыны справіў.
Выпіў з ёй. Свет мяне не цікавіў –
пачуццё адзіноты гняло...
Лёс апошнюю кропку паставіў...
Золкім снегам шляхі замяло...

VI

Золкім снегам шляхі замяло.
Доўга ў сэрцы ўладарыла сцюжа.
Спрабаваў я разблытаць сіло;

раіў сам сабе: мудрым будзь, дружа,
не твая гэта белая ружа....
І патроху ў душы пачало
праясняцца. Лёс хмурыў чало,
ды нядоўга і ціснуў не дужа,
а сустрэліся – зноў усплыло
перажытае. Зноў на паверхні,
што хмяліла, а потым гняло,
прагучала: «Прабач» і «Павер мне...»
Зерне радасці – кволае зерне,
але ў сэрцы ізноў ажыло.

## VII

Але ў сэрцы ізноў ажыло –
нагадала самотнаму, хто я –
шчасце ў думках быць побач з табою
аднавіла і пераўзышло
ўсе мае спадзяванні. Без бою
за былое рэванш узяло.
Забуяла ў душы, зацвіло –
ты ўзышла ў ёй нязгаснай зарою.
Сам я з сэрца таму толькі змог
вырваць крыўды смяротнае джала,
што ты сціпласць майго ашчаджала
пачуцця – каб не зблытаць дарог,
каб я чыстымі ў сэрцы збярог
зорных мар і ўспамінаў нямала.

## VIII

Зорных мар і ўспамінаў нямала
застаецца ў душы назаўжды.

Іх мне ў дні адзіноты хапала.
Іх, як скарб, я нясу праз гады
мо таму, што ты мне спачувала,
калі чэз я ў палоне бяды –
можа, ты мне ў самоце тады
гэтым самым душу ратавала
і знайшла ў маім сэрцы жытло.
І калі я адзін сярод ночы –
лёс кахання майго – не сірочы:
хай два ж*ы*цці ў адно не звяло –
ды яно прасвятліла мне вочы,
рэшткі крыўды распаліся ў тло.

## IX

Рэшткі крыўды распаліся ў тло.
Веру яве, якая не гіне.
Гэта значыць, каханне было,
ёсць, і будзе, і нас не пакіне,
будзе кветкай цвісці ва ўспаміне.
Можа, возьме яшчэ пад крыло...
Калі ў хвалях раз’юшанай плыні
злосна выла, гудзела, раўло,
калі човен мой вабіла дно,
калі плыў без руля і матора
і варожым здавалася мора,
над якім нават зор не відно –
зноў вярталася ў думкі яно,
і святлеў далягляд і прастора.

## X

Пасвятлеў далягляд, і прастора
неабсяжнасцю радуе зрок...
Бачу – сэрцам – той дзень і той горад,
дзе спаткаў я цябе незнарок.
Твой ад’езд... Твой няўпэўнены крок...
Ціхі сум у вачах і пакора...
Еднасць душ, і ні кроплі дакору...
Расхінаючы ранішні змрок,
твой цягнік выплыў з-за семафора...
Вобраз твой – Маці Боскай абраз –
неўміручы – не счэз і не згас,
ува мне ён такі ж, як і ўчора,
і здалёк – праз адлегласць і час –
усміхаецца мне ясназора.

## XI

Усміхаецца мне ясназора
незадымлены мой далягляд.
На раўніне жыцця кожны ўзгорак
непаўторнасцю лашчыць пагляд.
Не хачу я шукаць сярод зорак
іншай роднай душы – наўздагад:
хісткіх кладак і прывідаў шмат
тоіць цемрай прасмолены морак...
Тут заўжды, побач з сэрцам, каханне –
кожны дотык праменіць святло.
Неўпрыкмет іншы змест набыло
і сапраўдны свой сэнс існаванне,
і на схіле жыцця, як світанне,
пачуццё замірэння прыйшло.

## XII

Пачуццё замірэння прыйшло
з цэлым светам, з людзьмі, з гэтым лёсам.
Без яго мяне ўраз апякло,
а цяпер хоць на вогнішча босы.
Што мне з ім небяспечныя плёсы!
Я вяслую ўсім бурам назло!
Хай глядзяць, хай зайздросцяць нябёсы:
я надзейнае маю вясло!
Хай мне будзе мой вопыт апорай.
Ці ж я сёння дазволю сабе
над мінулым схіляцца ў журбе,
як ратай над няўдалай разорай?
Ноч – я ў думках лячу да цябе,
і не страшны мне цемра і гора.

## XIII

І не страшны мне цемра і гора,
і няўзнак мне, што мала сяброў.
Ёсць святло і ў імгле вечароў:
б’е фантанам на захадзе ўгору –
пыркі сыплюцца ў нетры бароў –
апаўдня цень хаваецца ў норы,
а ўначы свецяць месяц і зоры –
што ім прывідны бляск ліхтароў!
І нязгасны твой вобраз – як сонца,
што ў захмараным сэрцы ўзышло...
І хоць болем наскрозь працяло
і ўявілася цемра бясконцай, –
носьбіт сонца, яго абаронца, –
сэрца знойдзе і ў цемры святло.

